*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)  15(123)  14 красавіка 1993 г.  Кошт — па дамоўленасці.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ГАЛАСАМІ 188 ДЭПУТАТАЎ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ** аб далучэнні Беларусі да ташкенцкага Дагавора аб калектыўнай бяспецы краін СНД. Аднак апошняе слова скажа беларускі народ на рэферэндуме, які павінен (адзін рэферэндум мы ўжо «правялі») прайсці да ратыфікацыі Дагавора на парламенце. За прыняццем рашэння аб уключэнні ў парадак дня чарговай сесіі пытання аб правядзенні рэферэндуму па асноўных праблемах жыцця рэспублікі, сярод якіх будзе і пытанне аб калектыўнай бяспецы, прагаласаваў 231 дэпутат. Так што і травень чакаецца быць гарачым, як і пачатак красавіка.*

●

**ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫ КАНГРЭС МАЛАДЫХ ПАЛІТЫКАЎ БЕЛАРУСІ, на якім выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч. У сваім выступленні ён засцярог маладых палітыкаў «ад памылак і хібаў, якімі поўніцца шлях да высокай дэмакратыі». Кангрэс прыняў заяву, у якой маладыя палітыкі Беларусі выказаліся за захаванне нейтралітэту нашай краіны. Але ці пачуе іх камуністычная большасць Вярхоўнага Савета?**

●

На чале з намеснікам Старшыні Савета Міністраў РБ Станіславам Брылем беларуская ўрадавая дэлегацыя наведала Польшчу. Было разгледжана пытанне стварэння сумеснага з Польшчай беларускага марскога неваеннага флоту. Польскі бок дасць Беларусі два грузавыя судны водазмяшчэннем 12 тысяч тон, беларускі ж — возьме на сябе ўсе фінансавыя выдаткі.

●

***У МЕНСКУ ПРАЙШЛІ БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКІЯ ПЕРАМОВЫ** тэхнічных экспертаў па ўстанаўленні хуткадзейнай спадарожнікавай сувязі паміж Менскам і Вашынгтонам. Падпісана дамова, па якой у траўні—чэрвені гэтага года амерыканскі бок паставіць у Беларусь неабходнае абсталяванне для стварэння першага канала такой сувязі.*

●

**УПЕРШЫНЮ ГРУПА З ВАСЬМІ БЕЛАРУСКІХ ВАЙСКОВЫХ ІНСПЕКТАРАЎ на чале з генерал-маёрам Віктарам Вакарам, у адпаведнасці з міжнародным Дагаворам па звычайных узброеных сілах у Еўропе, правяла кантроль яго выканання на аб'ектах НАТА.**

●

***ВЫВУЧАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ І ГІСТОРЫЮ КРАІНЫ ДАПАМОГУЦЬ** вайскоўцам баранавіцкага гарнізона сябры гарадскога аддзялення ТБМ імя Ф. Скарыны — так дамовіліся на сустрэчы вайсковае камандаванне і кіраўніцтва гарадскога Таварыства.*

---

***Трэба змірыцца з суіснаваннем дзвюх правапісных нормаў***

Стар. 2.

***ДВУХМОЎЮ — НЕ!***

Стар. 3.

***«ЦІ ВАРТА СЁННЯ БЫЦЬ ПАЭТАМ?»***

Стар. 4.

---

## Адам МАЛЬДЗІС: Праблема беларускай дыяспары — адзін з галоўных накірункаў у нашай рабоце



*(Гутарка з дырэктарам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны, прафесарам Адамам Мальдзісам)*

**— Адам Іосіфавіч, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францішка Скарыны, які Вы ўзначальваеце, ужо добра вядомы ў Беларусі і за яе межамі. Існуе думка, што ён створаны для таго, каб адарвацца ад афіцыйнай навукі і наблізіцца да беларускага замежжа, якое яшчэ ўсё ж насцярожана ставіцца да Акадэміі навук Беларусі.**

— Гэта даволі складанае пытанне. Мы ні ў якім разе не хочам сябе супрацьпастаўляць Акадэміі навук, у складзе якой першапачаткова ўзніклі. І не наша віна, а наша бяда ў тым, што нас фактычна вывелі са складу Акадэміі навук пры ранейшым кіраўніцтве. Пачаліся спрэчкі, а навошта сапраўды патрэбны такі цэнтр, калі ўсё вырашана і ўсё ахоплена сістэмай акадэмічных інстытутаў: мовазнаўства, літаратуразнаўства, гісторыі, філасофіі, мастацтвазнаўства і г. д. Але адметнасць нашага Цэнтра ў тым, што мы працуем якраз на стыку гэтых навук. А даўно ўжо вядома, што самыя цікавыя адкрыцці з'яўляюцца на сумежжы навук. Спынімся на праблеме гісторыі і тэорыі культуры. Асобныя дзялянкі культуры распрацоўваліся ў Інстытуце літаратуры і ў Інстытуце мастацтвазнаўства, але мы павінны комплексна падысці да вывучэння гісторыі нашай культуры і напісаць яе ў будучым. Ці возьмем такую праблему, як беларусазнаўства. Мы, безумоўна, даследавалі беларускую мову, літаратуру, але не было комплекснага падыходу да вывучэння беларускага менталітэту, праблемы нацыянальнай самасвядомасці, грамадска-палітычнага жыцця на Беларусі ў сувязі з фарміраваннем беларускай нацыі. Безумоўна, трэба таксама падысці комплексна і да вывучэння гісторыі рэлігіі, паколькі да гэтага часу ў нас пераважна займаліся гісторыяй атэізму, а сёння мы бачым, наколькі важна даследаваць менавіта гісторыю хрысціянства, гісторыю іншых канфесій на Беларусі. І гэтым павінны займацца людзі розных навуковых накірункаў, але аб'яднаныя агульнай мэтай.

**— Ці існуе нейкая сувязь паміж Цэнтрам і навучальнымі ўстановамі?**

— Станаўленне нашага Цэнтра ідзе вельмі цяжка. У нас складаная сістэма фінансавання. Напалову мы фінансуемся з дзяржаўнага бюджэту, а два аддзелы — па дагаворных тэмах. І паколькі цяпер у складзе Міністэрства адукацыі, то мы павінны стаяць бліжэй да вышэйшай і сярэдняй школы, да тых устаноў, дзе сёння вырашаецца лёс беларускай нацыі. Ад таго, як будзе выхавана і падрыхтавана новае пакаленне, залежыць і вырашэнне такога пытання — быць беларусам на свеце ці не быць. А гэтае пытанне на сёння пакуль што праблематычнае. У Цэнтры рыхтуюцца дапаможнікі па беларусазнаўству, найперш для студэнтаў тэхнічных навучальных устаноў.

**— А ці ёсць падобныя да Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра ўстановы ў іншых краінах свету?**

— Так, безумоўна. Аналагічныя ўстановы існуюць у вельмі многіх краінах, не супрацьпастаўляючы сябе акадэміям навук ці навучальным установам. Ёсць Цэнтр імя Кірылы і Мяфодзія ў Балгарыі, Маціца сербская ў Белградзе, аналагічныя ўстановы ў Браціславе, Празе, Любляне.

**— Якую пазіцыю займае Цэнтр у адносінах да беларускай дыяспары?**

— Праблема беларускай дыяспары — адзін з галоўных накірункаў у нашай рабоце. У самы бліжэйшы час мы, відаць, атрымаем мажлівасць займацца праблемай беларусаў у свеце комплексна, паколькі плануем стварыць такі аддзел, а ў Менску

*(Заканчэнне на с. 3).*

---

***ГРУПА НАВУКОЎЦАЎ ВІЦЕБСКАГА ПЕДАГАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА ПАДРЫХТАВАЛА** да выдання руска-беларуска-лацінскі, беларуска-рускі слоўнік «Біялагічная тэрміналогія і наменклатура», у які ўваходзіць каля 15 тысяч тэрмінаў і назваў.*



***9 КРАСАВІКА ПАЧАЛІСЯ ТРАДЫЦЫЙНЫЯ МУЗЫЧНЫЯ ФЕСТЫВАЛІ:** «Менская вясна» ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі і Фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі ў Полацкім Сафійскім саборы.*

*Генадзь ЦЫХУН, доктар філалагічных навук, старшыня камісіі па ўдасканаленні правапісу ТБМ імя Ф. Скарыны.*

# Трэба змірыцца з суіснаваннем дзвюх правапісных нормаў

У сучасны момант суіснуюць дзве правапісныя нормы, якія ўзыходзяць да правапісных зводаў Тарашкевіча — Лёсіка (1918—1933) і парэформавага (1933—1957). Пры гэтым першая норма мае шэраг варыянтаў, якія розняцца ў дэталях (варыянты Я. Станкевіча, Пашкевіч, В. Вячоркі і інш.). Побач з гэтым існуе звязаная з ужываннем першай нормы практыка, якая часта ўяўляе сабой эклектычную і неўпарадкаваную стыхію, дзе кожны аўтар імправізуе «пад Тарашкевіча» на свой страх і рызыку. Некаторым здаецца, што сітуацыя, калі канкурыруюць дзве правапісныя нормы, узнікла нядаўна. Гэта не так, два названыя варыянты правапісу суіснуюць ужо 60 год, з моманту ўвядзення ў БССР урадавым дэкрэтам 1933 года змен у да таго часу адзіны беларускі правапіс. Заходняя Беларусь тады ў асноўным захавала стары правапіс. Пазней старая правапісная традыцыя працягвалася ў легальных выданнях на тэрыторыі Беларусі пад нямецкай акупацыяй, а таксама ў беларускіх выданнях за яе межамі. А цяпер яна пашырылася і на Беларусі. Няма ніякага сумнення, што рэформа 1933 года мела русіфікацыйны напрамак. Яна разбурыла правапіснае адзінства, што з'яўляецца яшчэ адным злачынствам бальшавізму супроць беларускага народа. Аднак у выніку працяглай моўнай практыкі і паступовых змен і ўдакладненняў была дасягнута даволі высокая ступень унармаванасці беларускай літаратурнай мовы, хаця няма ніякіх падстаў не заўважаць значныя страты на гэтым шляху і выразныя супярэчнасці ў прынятым правапісе. Імкненне падаць правапісную норму Тарашкевіча — Лёсіка як несупярэчлівую, пазбаўленую недахопаў і нявырашаных праблем не адпавядае рэчаіснасці. У абедзвюх нормах ёсць пэўныя цяжкія для вырашэння пытанні.

Існуе ў грамадстве ілюзія, што ўсе ці шмат якія цяжкасці функцыянавання беларускай мовы звязаны з яе «сапсаванасцю» рэформай 1933 г. Гэта тыповая лагічная памылка, калі адбываецца падмена паняццяў. Міжволі прыходзіць у галаву аналогія пра рух лудзітаў у Англіі, якія, не ведаючы сацыяльных прычын свайго гаротнага становішча, скіроўвалі свой гнеў супроць машын. У нашым выпадку машына — гэта правапіс. Не таму беларуская мова знаходзіцца ў занядбаным стане, што ў яе дрэнны правапіс. Хутчэй наадварот, існуючы правапісны стан з'яўляецца вынікам яго гаротнага становішча ў грамадстве. Пры нармальным функцыянаванні шмат якія праблемы вырашыліся б самі сабой. І гэта добра разумеюць беларусы дыяспары. У прыватных гутарках яны так і гавораць: «Мы прымем любы правапіс, прапанаваны спецыялістамі, калі ўбачым, што беларуская мова заняла належнае ёй месца ў Беларусі. А да таго, кажуць яны, у нас няма ніякіх падстаў мяняць той правапіс, якім мы карыстаемся шмат гадоў. З гэтага вынікае, што дзве названыя правапісныя нормы могуць суіснаваць дастаткова доўга. І трэба змірыцца з гэтым, бо мы не выключэнне ў свеце. У шмат якіх народаў суіснуюць дзве правапісныя нормы, варыянты літаратурных моў ці нават дзве літаратурныя мовы, якія ўзніклі падобным да нашага ці іншым шляхам. Напрыклад, вядомы два варыянты нарвежскай, навагрэчаскай, албанскай і іншых літаратурных моў. Нягледзячы на яўна выражанае імкненне да моўнага адзінства, змяніць існуючую сітуацыю адным махам не ўдаецца. Пэўныя поспехі дасягнуты толькі ў тым выпадку, калі ў прадстаўнікоў розных правапісных і літаратурных нормаў ёсць жаданне ісці на кампраміс, як гэта мела месца ў Албаніі. У нас жа пакуль такога жадання не назіраецца. Наадварот, заўважаецца пэўная агрэсіўнасць і супрацьстаянне.

З усяго сказанага вынікае, што рашыць правапісную праблему ў бліжэйшы час шляхам дэкрэтаў не ўдасца. Гэта — чарговая ілюзія, ад якой трэба пазбаўляцца. Можна (і трэба) у якасці першых крокаў вызначыць сферы, дзе ўжываецца тая або іншая норма ці дапускаецца ўжыванне абедзвюх нормаў (без змяшэння!). Трэба аўтарытэтам вучоных і ТБМ вызначыць сферы, дзе папераменнае ўжыванне абедзвюх нормаў недапушчальнае (школа, афіцыйныя выданні). Дарэчы, такая практыка назіраецца і ў іншых народаў, дзе існуе канкурэнцыя літаратурных варыянтаў. Шлях да паяднання ў нашым выпадку ляжыць у збліжэнні дзвюх правапісных нормаў. У нас ёсць падставы для кансалідацыі, бо разыходжанні пакуль не перайшлі межаў правапісу, а абедзве правапісныя традыцыі грунтуюцца на адных і тых жа прынцыпах (з перавагай фанетычнага). У марфалогіі, лексіцы і сінтаксісе пры дапушчэнні пэўнай варыянтнасці (чаго не можа быць у правапісе!) натуральным шляхам можа ісці канвергенцыя розных падыходаў і ўзбагачэнне адзінай літаратурнай мовы. Збліжэнне дзвюх існуючых правапісных традыцый павінна быць двухбаковым і скіраваным у першую чаргу на вырашэнне найбольш спрэчных пытанняў. Зыходзячы з гэтага, камісія па ўдасканаленні правапісу выносіць на абмеркаванне III з'езда ТБМ свае прапановы, якія могуць быць прыняты ў якасці рэкамендацый для адпаведнай камісіі па адзінай моўнай палітыцы, што мае быць створана пры Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь.

**Генадзь ЦЫХУН,**
**доктар філалагічных навук,**
**старшыня камісіі па ўдасканаленні правапісу ТБМ імя Ф. Скарыны.**

**Сяргей ЗАПРУДСКІ, сакратар камісіі па ўдасканаленні правапісу ТБМ імя Ф. Скарыны.**

# *Складанае мастацтва кампрамісу*

Калі браць увесь перыяд свядомага рэгулявання правапісу беларускай літаратурнай мовы, то можна канстатаваць, што калектывы, якія працуюць на сучасным этапе (а з іх вядомы толькі адзін — гэта наша камісія), сутыкаюцца, бадай, з найбольшымі цяжкасцямі. Гэтыя складанасці звязаны з існаваннем у літаратурнай мове дзвюх правапісных нормаў, і з неабходнасцю дасягнення кампрамісу паміж імі. Ні правапісная камісія Інстытута беларускай культуры, якая працавала з 1927 па 1929 год, ні ўпарадчыкі правапісу сярэдзіны 50-ых перад такой праблемай не стаялі. Першыя таму, што ў 20-ыя гады існавала арфаграфічнае адзінства беларускай літаратурнай мовы, другія з тае прычыны, што яны вызначалі нормы ў межах адной правапіснай сістэмы і зусім не звярталі ўвагу на наяўнасць другой.

Да канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу» наша камісія меркавала падрыхтаваць паўнацэнны праект (дзеля гэтага мы правялі 25 пасяджэнняў), аднак шматлікасць праблем, што абмяркоўваліся, а таксама ўмовы, у якіх працавала камісія, не дазволілі зрабіць гэтага. І на разгляд з'езда мы выносім не праект, а толькі некаторыя пункты, па якіх у нас дасягнута большая ці меншая згода. Прапанаваныя рэкамендацыі, такім чынам, мы лічым прамежкавым вынікам нашай дзейнасці.

Як можна пераканацца, з прапанаваных пунктаў зменай з'яўляецца фактычна толькі першы — і ён цалкам укладваецца ў традыцыю пазначэння на пісьме асіміляцыйнай мяккасці зычных, зафіксаваную ў 1918 годзе Браніславам Тарашкевічам. (Да 1918 года такая традыцыя складвалася ў беларускай мове стыхійна). Усе астатнія — або здымаюць пэўныя непаслядоўнасці сучаснага правапісу, або пашыраюць абсяг дзеяння пэўных заканамернасцяў, якія ўжо існуюць у беларускай мове.

Прапанаваны дакумент не трэба ўспрымаць як пэўны арфаграфічны (хай сабе і вельмі абмежаваны) кодэкс; у ім няма фармулёвак. Мы толькі задаём напрамкі, у якіх, на нашу думку, магло б рухацца правапіснае ўнармаванне нашай мовы.

# Рэкамендацыі камісіі па ўдасканаленні правапісу беларускай мовы Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны

**— Зыходзячы з неабходнасці захаваць адметнасць беларускай літаратурнай мовы,**

**— абапіраючыся на кваліфікацыю дэкрэта СНК «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу» ад 26 жніўня 1933 года ў пастанове навуковай канферэнцыі «Праблемы беларускага правапісу» (1992),**

**— маючы на ўвазе неабходнасць дасягнення згоды,**

**— жадаючы спрасціць беларускую арфаграфію, камісія рэкамендуе ўнесці ў правапіс наступныя змены і ўдакладненні:**

**1. Абазначаць у межах слова памякчэнне зычных *з, с, дз, ц* пры дапамозе мяккага знака перад мяккімі зычнымі (акрамя *г, к, х*) і ётавымі галоснымі: *зьвер, лазьня, прозьвішча, сьнег, сьпяваць, у масьле, радасьць, дзьверы, цьвік; зьехаць, зьява, разьюшыцца, зьёрзаць.***

**Мяккі знак мае пісацца таксама пры абазначэнні мяккіх падоўжаных (падвойных) зычных (за выключэннем *дз'*): *ральля, пытаньне, палозьзе, Палесьсе, свацьця,* але: *суддзя.***

**2. Аднастайна пісаць прыметнікі, у якіх канцавы зычны асновы *к* спалучаецца з суфіксальным *с*: *узьбецкі, таджыцкі, каракалпацкі, сельджуцкі,* так як і *калмыцкі, кумыцкі, гіляцкі.***

**3. Уніфікаваць правапіс каранёвага спалучэння *сч,* якое паходзіць з *ск* або *ст (сц)*: прыметнік *пяшчаны,* назоўнікі *пяшчанік, пяшчынка* і пад. маюць пісацца гэтаксама, як словы *пішчык* (ад *пішчаць*), *вашчына, вашчаны, пяшчота, блішчаць.***

**4. Скасаваць асобны статус спалучэння *-стн-* у прыметніках, утвораных пры дапамозе суфікса *-н-* ад назоўнікаў іншамоўнага паходжання з канцавым *-ст.* Словы *кантрасны, фарпосны, баласны, кампосны* пісаць аднолькава з *бязьлітасны, пачэсны, абласны, радасны, посны.***

**5. Падпарадкаваць правілу акання ўсе выпадкі правапісу складаных слоў, у якіх асноўны націск падае на першы склад другой часткі. Адпаведна словы *малачнакіслы, збажжаздача, усхадазнаўства, нававынайдзены, фандасховішча, мавазнаўства, прырадазнаўства* і пад. прапануецца пісаць аднастайна з *канапляводчы, навамодны, чарнабурка, караткахвосты* і інш.**

**6. Прыняць правапіс злучальнага галоснага *е* ў адпаведнасці з агульным правілам напісання *е* ў першым складзе перад націскам: *вогняўстойлівы, земляўласнік,* але *вогнепаклоннік, земleўладанне.***

**7. Дастасаваць правапіс лічэбнікаў *сямнаццаць, васямнаццаць, дзявяты, дзясяты, сямнаццаты, васямнаццаты* і вытворных ад іх слоў да агульнага правіла напісання *е* ў першым складзе перад націскам.**

**8. Удакладніць правіла прыстаўных галосных, якое павінна рэгламентаваць групы зычных, перад якімі маюць пісацца *і* або *а.***

**9. Дапусціць у якасці факультатыўнага варыянта напісанне ўзмацняльнай часціцы і злучніка *і* ў выглядзе *й,* калі папярэдняе слова заканчваецца на галосны:**

***яна і пытаецца***
***ды і дадому прыходзіць позна***
***будзе сьвята і на нашай вуліцы***
***бацька і сын***
***паеду і адпачну***

**і *яна й пытаецца***
**і *ды й дадому прыходзіць позна***
**і *будзе сьвята й на нашай вуліцы***
**і *бацька й сын***
**і *паеду й адпачну***

**10. Пашырыць напісанне *ў* (нескладовага) у запазычаннях і ўласных назвах:**
***ва ўніверсітэце, ва ўнісон, ва ўніформе;***
***ноў - хаў, шоў, клоўн, соўс, страўс, раўнд, раўт;***
***на Украіне, Марыя Уласевіч, каля Усяслава;***
***Ландаў, Бернард Шоў, Глен-Коў, Ала-Таў, Дахаў.***

**11. Стабілізаваць правіла правапісу апострафа, згодна з якім гэты знак павінен ужывацца толькі перад *е, ё, ю, я, і*: *аб'ехаць, аб'ём, ад'ютант, аб'ява, аб'інець.***

**12. Пашырыць аканне ў запазычаных словах, якія заканчваюцца на ненаціскныя *-ар* (з *-er*) і *-аль* (з *-el*):**
***карцар, прынтар, грэйдар, дэбаркадар, лідар, дэкодар, фламастар, ваўчар* — як *характар; шніцаль, шпаталь, шпіндаль* — як *буталь.***

**13. Перадаваць іншамоўныя спалучэнні галосных, першым з якіх з'яўляецца *і* або *ы,* пры дапамозе ўстаўкі *j* (на пісьме абазначаецца праз ётавыя літары *е, ё, ю, я*):**
***адажыё, трыё, імпрэсарыё, Рыё, Антоніё, Токіё, Сільвіё, трыюмф, радыюс, кансіліюм, прэзідыюм.***

# ПАСТАНОВА

**1. Падтрымаць пункты 1—4, 6—9, 11—12 рэкамендацый, падрыхтаваных камісіяй па ўдасканаленні правапісу беларускай літаратурнай мовы.**

**2. Накіраваць рэкамендацыі III з'езда ТБМ дзяржаўнай камісіі, якая мае быць створана дзеля заканадаўчага ўрэгулявання беларускага правапісу.**

# ДВУХМОЎЮ — НЕ!

*На імя Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. С. Шушкевіча дэлегаты Мядзельскай раённай канферэнцыі ТБМ імя Ф. Скарыны накіравалі заяву, у якой гаворыцца:*

«Разгорнутая кампанія супраць нацыянальнай мовы, якую развязалі сродкі масавай інфармацыі, асабліва некаторыя рускамоўныя газеты, выклікае гнеў і абурэнне беларусаў. Патрабаванне ўсталяваць у Беларусі гэтак званае дзяржаўнае двухмоўе, перагляд Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь азначае імкненне пэўных палітычных сіл спыніць працэс нацыянальна-культурнага адраджэння ў рэспубліцы і ператварыць яе ў духоўна-культурную правінцыю Расіі. Яны намагаюцца дэстабілізаваць нацыянальную сітуацыю на Беларусі, раскалоць наша грамадства на прыхільнікаў і ворагаў гэтай ідэі, як гэта адбылося ў Прыбалтыцы і Малдове. Але ні віленскай, ні малдаўскай карты на Беларусі разыграць не ўдасца.

Працаўнікі беларускай мовы праводзяць тэндэнцыйныя і аднабокія апытанні некаторых груп насельніцтва па пытаннях будучага статуса нашай мовы. І робіцца гэта для таго, каб пад націскам часткі дэнацыяналізаванага насельніцтва і кансерватыўных сіл прымусіць Вярхоўны Савет узаконіць дзяржаўнасць двухмоўя ў Беларусі. Працаўнікі беларушчыны добра разумеюць, што такім чынам будзе нанесены смяротны ўдар па беларускай мове і культуры, што пазбавіць нашу нацыю суверэнітэту і будучыні.

У свой час наш пясняр і прарок Янка Купала расшуча пратэставаў супраць абування беларусаў у духоўна жабрацкія лапці. На жаль, такая спроба прадпрымаецца і сёння, калі Беларусь стала суверэннай дзяржавай і імкнецца развівацца па цывілізаванаму шляху.

На працягу доўгага часу беларуская мова і культура знаходзіліся ў неспрыяльных умовах. Пасля раздзелу Рэчы Паспалітай беларусы, паводле выказванняў лаўрэата Нобелеўскай прэміі Чэслава Мілаша, трапілі з гаршка паланізацыі на патэльню русіфікацыі. Ці трэба пасля гэтага здзіўляцца, што частка насельніцтва Беларусі страціла нацыянальную свядомасць, сваю гістарычную памяць? Прапановы аб увядзенні дзяржаўнага двухмоўя інакш як кашчунствам назваць нельга, маючы на ўвазе сённяшнюю моўную сітуацыю ў рэспубліцы, калі, як слушна сцвярджае Н. Гілевіч, «гэтак званае двухмоўе пераходзіць у рускае аднамоўе».

Патрэбна выкарыстаць апошні гістарычны шанц, адпушчаны беларусам гісторыяй: паклапаціцца аб нацыянальнай мове і культуры так, каб яны займелі ў нашай рэспубліцы статус, які маюць руская мова і культура ў Расіі, украінская на Украіне, польская ў Польшчы, літоўская у Літве. Наданне беларускай мове статуса адзінай дзяржаўнай патрэбна замацаваць у Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь. Калі ж мы гэтага не зробім, нас не будуць паважаць народы Еўропы, увесь свет.

Мы звяртаемся да Вас, Станіслаў Станіслававіч, да Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь зрабіць усе магчымыя захады, каб абараніць беларускую мову і культуру, захаваць адзінства нацыі, выратаваць яе будучыню».

**І. П. ДРАЎНІЦКІ,**
**Г. І. БУЛЫГА,**
**Ф. В. ЛІПНІЦКАЯ,**
**П. А. САПЕГА,**
**А. С. ХІЛА**
**і іншыя (усіх 105 подпісаў).**

г. п. Мядзел. 23.03.1993 г.

## Удалая абарона, віншуем!

***Як паведаміла магілёўская дэмакратычная газета «Ратуша», дырэктар школы ў г. п. Капаткевічы Петрыкаўскага раёна Аляксей Солахаў нядаўна ў Гомелі «рашуча» абараняўся. І атрымаў перамогу. Бо абараняў Аляксей Васільевіч у Гомельскім дзяржаўным універсітэце навуковую дысертацыю, тэму якой вызначыў так: «Мова старабеларускай навукова-публіцыстычнай літаратуры на фанетыка-арфаграфічным і марфалагічным узроўнях». А паколькі дысертант з Магілёўшчыны, землякі і павіншавалі яго праз газету, пажадаўшы «далейшага плёну ў руплівай працы на ніве беларускага Адраджэння».***

**Наш карэспандэнт.**

*Меркаванні*

# Да нашай краіны падобна хіба што Ірландыя

Я з'яўляюся нашчадкам беларускіх бежанцаў часоў Першае сусветнае вайны. Маю дыплом выкладчыка англійскай мовы, ведаю ўкраінскую, польскую, крыху іспанскую. І крыху валодаю дзедаўскаю, беларускаю, у адрозненне ад тых беларусаў, што ненавідзяць сваю мову і хочуць знішчыць яе праз гэтак званае «двухмоўе». Гэтыя людзі, якія завуць сябе інтэрнацыяналістамі, толькі ў прыватных размовах прызнаюцца, што імі кіруе выключна нянавісць да Беларусі, што яны адчуваюць сябе малпамі, якім, маўляў, толькі веданне чужынскае мовы дазволіла пазбыцца хваста і ўзнесціся да ўзроўню чалавека. На людзях жа яны спасылаюцца на здаровы сэнс, на прыклады тых краін, дзе існуе двухмоўе. Але гэта дэмагогія. Кожнаму дасведчанаму чалавеку вядома, што, скажам, Фінляндыя з гэтага пункту гледжання не мае з Беларуссю нічога супольнага. Сапраўдным прыкладам можа быць хіба толькі шматпакутная Ірландыя, чый лёс да болю схожы з беларускім.

Калі Ірландыя дамаглася незалежнасці, англійскую мову пакінулі другою дзяржаўнаю. Цяпер у Ірландыі па-ірландску не размаўляе амаль ніхто. Ірландыя зрабілася сумным прыкладам таго, што народ, страціўшы сваю мову, ператвараецца ў тубыльцаў шэрае правінцыі, якой наканавана паслухмяна выконваць рады і загады былое метраполіі і абслугоўваць патрэбы яе эканомікі, з зыскамі для чужынцаў і стратамі для сябе.

Але Беларусь знаходзіцца ў значна горшым становішчы за Ірландыю. І не толькі таму, што расійская мова, у адрозненне ад англійскай, паўсюль лічыцца нікому не патрэбнаю экзатычнаю ўсходняю моваю, якой навучаюцца пераважна дзівакі. Бяда Беларусі ў тым, што словы Багушэвіча («Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!») пачынаюць гучаць цяпер амаль літаральна. Раней з моваю знікаў народ, але людзі, асімілюючыся, проста рабіліся часткаю іншых народаў. Цяпер разам з беларускаю моваю могуць загінуць яе набыткі — іх заб'е або знявечыць чарнобыльская пачвара.

Эканоміка? За кожны рубель расійскае «дапамогі» Беларусь прымусяць плаціць кропляю сваёй незалежнасці, пакуль цалкам яе не выцадзяць.

Калісьці ірландскія абывацелі казалі, што «ірландская мова не дадасць ані шэлега да аніводнае ірландскае кішэні». (Гучыць знаёма?) А калі гэтым рупліўцам аб сваёй кішэні нехта казаў, які жахлівы ўдар яны наносяць па кішэні сваіх сыноў, то такому прароку рагаталі ў твар. Неўзабаве давялося плакаць.

Прашу памятаць яшчэ адно: навука ведае замала аб наступствах слабога апраменьвання, але нават першыя вынікі даследаванняў выклікаюць жах. Канешне, ворагаў беларускае мовы не бянтэжыць думка аб тым, што з часам Беларусь можа спарадзіць новую расу, расу мутантаў. Галоўным для іх — што гэтыя пачвары размаўляюць па-расійску і разумеюць загады. Калі толькі ўвогуле будуць здатныя размаўляць. На адно спадзяюся: усё ж далёка не ўсе беларусы хворыя на самагубны комплекс.

**Віктар ІВАНОЎ.**

г. Масква.

# Адам МАЛЬДЗІС: Праблема беларускай дыяспары — адзін з галоўных накірункаў у нашай рабоце

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1.)*

адкрываецца Усебеларускі дом — у былым будынку Інбелкульта, куды мы пераходзім у бліжэйшы час. А сёння па меры магчымасці дыяспара дапамагае Цэнтру найперш літаратурай. На днях я. Аляксандр Надсан прыехаў з гуманітарнай дапамогай і прывёз тры вялікія скрынкі кніг. Таксама вялікую дапамогу ў забяспечванні нас кнігамі і перыядычнымі выданнямі аказвае д-р Вітаўт Кіпель, дырэктар Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку. Гэта ўсё мы выкарыстаем як для экспазіцыі «Беларусы ў свеце», якую рыхтуем, так і для банка інфармацыі па беларусістыцы, а таксама пры напісанні энцыклапедычнага даведніка, які будзе насіць тую самую назву.

**— Адам Іосіфавіч, калі Вы ўжо згадалі пра Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку, то скажыце колькі слоў пра яго дзейнасць.**

— Гэта грамадская арганізацыя, якая не фінансуецца дзяржаваю, а існуе на складкі, ахвяраванні і г. д. Яна не мае штатных пасад. Там працуюць дасведчаныя, адданыя сваёй Бацькаўшчыне людзі. Але здабыткі Інстытута Навукі і Мастацтва вельмі значныя. Ён выдаў серыю твораў пісьменнікаў беларускага замежжа, а таксама вельмі багатыя, карысныя бібліяграфіі. Адна з іх «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе», другая — «Францішак Скарына». Інстытут мае сціплае памяшканне, што завяшчаў Пётр Крэчаўскі, дзеяч БНР. Там праводзяцца навуковыя канферэнцыі і літаратурныя вечарыны, наладжваюцца сустрэчы суайчыннікаў з Беларусі. Часам мы тут, на радзіме, вельмі перабольшваем фінансавыя магчымасці нашай эміграцыі. Калі мы бачым, што робіць украінская, армянская ці літоўская эміграцыя, то мы можам толькі пазайздросціць. Цяпер з дапамогай украінскай дыяспары выдаецца збор твораў старажытнай украінскай літаратуры ў 40 тамах на мове арыгінала, а таксама ў перакладзе на англійскую мову і сучасную ўкраінскую мову. Мы не можам разлічваць на такую сур'ёзную дапамогу нашай дыяспары. Безумоўна, Інстытут Навукі і Мастацтва — адна з асноўных беларускіх навуковых арганізацый на Захадзе і павінен заняць дастойнае месца ў даведніку «Беларусы ў свеце».

**— У Вас вельмі багаты вопыт сустрэч з замежнымі беларускімі дзеячамі. Як розніцца Ваша першае ўражанне і цяперашняе ўяўленні пра нашу беларускую дыяспару?**

— Мая першая паездка на Захад адбылася ў 1982 годзе. У тыя часы ў нас было прынята ўсю нашу дыяспару маляваць толькі чорнай фарбай, і, безумоўна, даесьці і я быў крыху настроены ў такім плане. А там я зразумеў, што сярод беларускіх эмігрантаў ёсць розныя людзі. Пераважная большасць нашых суродзічаў не вінаватая ў тым, што лёс склаўся так, а не інакш. Многія паехалі на Захад у пошуках заробку, некаторыя выйшлі з арміяй Андэрса праз Сярэднюю Азію, праз Егіпет, удзельнічалі ў бітве пад Монтэ-Касіна, а шмат хто выехаў у 1944 годзе, бо баяўся рэпрэсій. Ёсць сярод эмігрантаў таксама людзі, якія маюць нейкія грахі за сабой. Калі я вярнуўся на радзіму, напісаў кніжку «Англійскі дзённік», у якой пастараўся праўдзіва расказаць пра нашых суродзічаў. Але гэтая кніжка доўгі час не выдавалася. Нарэшце была выдадзена, але з яе я не па сваёй волі выкінуў больш за 100 старонак. Як раней, так і цяпер бачу, што большасць беларускіх эмігрантаў — гэта шчырыя патрыёты Бацькаўшчыны, людзі, якія там робяць шмат для таго, каб жыла беларуская дыяспара і дапамагала нам у адраджэнні Беларусі.

**— Адам Іосіфавіч, наколькі моўная праблема цікавіць беларускую дыяспару?**

— Тут трэба выдзеліць некалькі аспектаў. Па-першае, існуе праблема размывання дыяспары. Калі хлопец, выхаваны ў беларускай сям'і, жэніцца з украінкай, полькай або рускай, то ён вельмі хутка пераходзіць на ўкраінскую, польскую або рускую мовы. Калі жэніцца з англічанкай, то часам захоўвае сваю родную мову ў сілу рознасці гэтых моў. Другая праблема — гэта праблема правапісу, таму што эміграцыя захавала правапіс, які быў да 1933 года. У некаторых выпадках мы можам гаварыць, што іх мова больш чыстая, чым наша. Але я ўпэўнены, што ў будучым трэба было б сабраць спецыяльную навуковую канферэнцыю, прысвечаную якраз дапасаванню нашых моў. У нечым, а гэта ў будучым непазбежна, павінны паступіцца мы, у нечым наша дыяспара. Мы павінны ісці да ўніфікацыі, таму што калі адна нацыя, то і адна літаратурная мова.

**— Што для беларусаў азначае рэлігія? Скажыце некалькі слоў пра рэлігійныя адгалінаванні ў беларускай дыяспары.**

— Рэлігійнае пытанне вельмі важнае. Відаць, у тым, што беларусы так запознена склаліся ў нацыю, ёсць залежнасць і ад рэлігійнага стану. У Беларусі не было веравызнання, з якім ідэнтыфікаваліся б беларусы як нацыя. Уніяцтва магло стаць такім веравызнаннем, але яно было ліквідавана. Не сакрэт, што пераважна праваслаўныя ідэнтыфікавалі сябе з рускімі, а каталікі — з палякамі. Гэта ж адбываецца і ў беларускім зарубежжы. Там тыя ж самыя рэлігійныя адгалінаванні, што і ў нас: праваслаўныя, каталікі, уніяты, пратэстанты; праваслаўныя самі па сабе, каталікі самі па сабе, тыя і другія не прызнаюць уніятаў. Ёсць там раскол і ў праваслаўнай царкве. Безумоўна, гэта ўсё не на карысць Беларусі, беларусам і беларускаму адраджэнню. Хрысціянства адно, і тут трэба ісці на збліжэнне, якое, безумоўна, будзе вельмі цяжкім, паколькі ўсе мы закамплексаваны, што толькі мой Бог з'яўляецца сапраўдным Богам. У кожнага веравызнання сваё ўяўленне пра Бога, але ж ён адзін... Таму экуменічны рух на збліжэнне хрысціянскіх канфесій, які шырыцца ў свеце, быў бы вельмі плённы і для Беларусі.

**— У ліпені мае адбыцца першы міжнародны з'езд беларусаў усяго свету. У сувязі з яго падрыхтоўкай узнікла шмат спрэчак і рознагалоссяў сярод палітычных плыняў і грамадскіх арганізацый. А якая Ваша пазіцыя?**

— На маю думку, з'езд не павінен быць занадта палітызаваным. Мы часта свае прыватныя інтарэсы ці інтарэсы тых ці іншых груповак ставім вышэй нацыянальных інтарэсаў. Трэба даць магчымасць нашым суайчыннікам прыехаць на радзіму, якая ў многім перад імі вінавата, і ўзяць удзел у абмеркаванні пытанняў беларускага адраджэння.

Гутарыла
**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# «Ці варта сёння быць паэтам?»

У Доме літаратара адбылася вечарына, прысвечаная 90-ым угодкам з дня нараджэння Тодара Кляшторнага, паэта, само імя і творчасць якога надоўга былі выкраслены з нашай гісторыі. Ён нарадзіўся ў вёсцы Парэчча на Лепельшчыне. Скончыў Аршанскі рабфак, а затым БДУ (1931). Друкавацца пачаў у 1925 годзе. За дзесяць гадоў творчай працы (1925—1935) выдаў 9 паэтычных кніг. Пасмяротныя выданні: «Залатое руна» (1960) і выбраныя творы (1972). Арыштаваны ў 1935 г., Т. Кляшторны быў расстраляны ў адзін час з Платонам Галавачом, Ізі Харыкам, Алесем Дударом (кастрычнік 1937).

Адзначым, што творчасць Кляшторнага ніколі глыбока не аналізавалася, а пісалі пра яе больш са старых пазіцый. Вульгарна-сацыялагічная крытыка дваццатых-трыццатых гадоў ганьбіла паэта за адарванасць ад жыцця, упадніцкія настроі ў паэзіі, «ясеніншчыну» (дарэчы, плённая традыцыя ў беларускай паэзіі), іншыя ідэйныя хістанні. Пазней, ужо пасля рэабілітацыі, у вялікую заслугу яму ставілася «рамантычнае апяванне гераікі Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, услаўленне сацыялістычнага будаўніцтва» (БелСЭ, 1972, т. 6, стар. 35).

Гаворка, што адбылася на вечарыне, высвеціла праўдзівы вобраз паэта, паказала яго сапраўднае значэнне ў беларускай савецкай літаратуры як аднаго з яе пачынальнікаў і стваральнікаў. Увогуле трэба адзначыць, што вечарыны, якія зараз праходзяць





у Доме літаратара, выконваюць ачышчальную функцыю, змываючы наклеймніцкія ярлыкі з беларускіх дзеячаў і творцаў, аднаўляючы гістарычную праўду, ацэньваючы заслугі кожнага з вышыні сённяшняга дня і без аглядкі на старое. Новае слова было сказана і пра Тодара Кляшторнага. У змястоўных і эмацыянальных выступленнях Аляксандр Лукашук (вядучы), Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Сяргей Грахоўскі, Антаніна Хатэнка паказалі Кляшторнага перадусім як тонкага лірыка, рамантычна ўзнёслага і непаўторнага, і разам з тым як чалавека інтэлігентнага, далікатнага, сціплага, якога выхавалі зямля і прырода. Бурапенна задзірыстай і шумнай у дваццатыя-трыццатыя гады была не ўся беларуская паэзія. Голас Кляшторнага гучаў у ёй ціха і пранікнёна. Трагедыя паэта была ў тым, што ён, насуперак свайму таленту і жаданню, літаральна «наступіўшы на горла уласнай песні», павінен быў выконваць, як тады гаварылася, «сацыяльны заказ эпохі», апяваць тое, чаго не прымала душа. Тагачасныя патрабаванні да мастакоўскага слова, як сфармуляваў іх Пятрусь Броўка, гучалі так:

Я гэтай рамантыкі вырасту вышай,
Мне трэба, каб слова падносіла цэглу,
А вершы ў альбом і другія напішуць.
(«Калі пачынаю з пачуццямі спрэчку», 1933).

Пісаць пра вытворчыя справы, калгасы, будаўніцтва дарог Кляшторны сапраўды спрабаваў, аднак стаць заслужаным трубадурам «сацыялістычнай явы» не змог. Прычыны назавуць яго будучыя даследчыкі.

У Кляшторнага ёсць верш, у якім ён спрабуе вызначыць сваё мастацкае крэда, а значыць, і сваё месца ў паэзіі («Ці варта сёння быць паэтам?»):

Я усхвалёваны чагосьці.
Чамусьці сэрца гэтак ные.
Ці па далёкай маладосці?
Ці над памылкамі сваімі?
Жыццё вакол цячэ з імпэтам,—
Жыццё не можа плыць іначай,
Ці варта сёння быць паэтам?
Ці варта лірыкай займацца?
Я штодзень думаю аб гэтым,
Ці не страшэнная памылка
У час вялікі будаўніцтва
На ліры лірніку пілікаць
І з ліры гэнае карміцца?

Тодар Кляшторны падзяліў трагічны лёс свайго пакалення, ашуканага рэвалюцыяй, сваёй нацыянальнай інтэлігенцыі, у авангардзе якой ішоў і сам. Іх, дваццаціпяці-трыццаціпяцігадовых пісьменнікаў, выкасілі на самым узлёце, не даўшы развінуць крылы, загубіўшы тым самым нашу славу, нашу вялікую літаратуру. Паэтычным асэнсаваннем гэтай трагедыі стала новая аповесць Васіля Быкава «Сцюжа». Як сказала А. Хатэнка, «паэты прыходзяць, бы кладачкі паміж мінулым і будучым, каб сказаць штосьці важнае свайму народу, аддаць сябе, ахвяраваць сабой. Тодар Кляшторны — крыжаахвярны, святы і пакутны — не змог выканаць сваё жыццёвае прызначэнне».

Выступленне на вечарыне члена камісіі пры Вярхоўным Савеце Беларусі па правах ахвяр палітычных рэпрэсій А. Лукашука было ў нейкай меры сенсацыйным. Аказваецца, у СССР існаваў ГУЛАГ не толькі для людзей, а і для кніг, аўтары якіх былі рэпрэсіраваны. Спісы на канфіскацыю і вынятку кніг з друкарняў, кнігарняў, бібліятэк складваліся ў маскоўскім Галоўліце, куды сцякалася інфармацыя з НКУСа, ЦК і іншых устаноў. Выдаваліся яны рэгулярна, звычайна раз на тыдзень. Галоўліт меў сваіх упаўнаважаных у раёнах і гарадах, на якіх ляжаў абавязак знішчаць названую ў спісе літаратуру на месцах. Рабілася гэта двума спосабамі: кнігі рэзалі на «сечку» або спальвалі на вогнішчы. Спіс літаратуры, з якім пазнаёміў гасцей вечарыны спадар Лукашук, датуецца 1938 г. У ім больш за 400 пазіцый. Аўтары — беларускія вучоныя, пісьменнікі, творчыя калектывы, якія рыхтавалі да друку тэрміналагічныя слоўнікі. Што ж падлягала знішчэнню па гэтаму спісу? Слоўнік геаметрычных і трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў (складальнікі К. Душ-Душэўскі і В. Ластоўскі), слоўнікі навуковай тэрміналогіі (па батаніцы, сельскай гаспадарцы, логіцы і псіхалогіі, бухгалтэрыі, касмаграфіі і інш.); усе кнігі Адама Багдановіча, празаічныя творы Максіма Багдановіча, зборнікі «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» Францішка Багушэвіча, выдадзеныя ў Менску і Коўне; усё, напісанае Алесем Гаруном, Вацлавам Ластоўскім, Максімам Гарэцкім, Уладзімірам Дубоўкам, Аркадзем Смолічам, Усеваладам Ігнатоўскім, Міхасём Зарэцкім, Алесем Дударом, Сымонам Баранавых, Алесем Звонакам і многімі іншымі. Кнігі Кляшторнага ў гэтым спісе значацца пад нумарам 162.

Выступленні лаўрэата Дзяржаўнай прэміі РБ Сяргея Грахоўскага і дачок загубленага паэта Дзіяны і Маі былі пабудаваны на ўспамінах. Пасля арышту Кляшторнага яго сям'я апынулася ў становішчы ізгоеў — адрынутых ад грамадства людзей. Жонка, паэтэса Яніна Германовіч, адбыла ГУЛАГ і ссылку — усяго 17 гадоў. Вярнуўшыся дадому, яна хутка памерла. Асірацелыя дзяўчынкі трапілі ў дзіцячы дом. Як магла, дапамагала ім добрая і шчырая цётка Александрына — родная сястра Тодара. Прыгадвалася і добрае і смешнае: як перавозілі сям'ю ў пакой на Варашылаўскім пасёлку, а па дарозе згубілі малую Дзіяну, што выпала з двуколкі, на якой былі рэчы; або як малады паэт на свой першы ганарар накарміў інтэрнацкіх хлопцаў, а на астатнія грошы купіў сабе капялюш — звычайна ён хадзіў у будзёнаўцы, шынялі і канькабежных чаравіках. Быў высокі, прыгожы, з рыжаватым чубам і задуменнымі вачыма. На пытанне, аб чым думае, адказваў: «Вершы думаю». Быў ён, аказваецца, аптымістам. У Менскай турме не раз суцяшаў «таварышаў па пяру»: «Не сумуйце, хлопцы, усё будзе добра: разбяруцца з намі, і пойдзем дадому».

Мастацкую частку вечарыны прадстаўляў дуэт: скрыпка — У. Угольнік, фартэпіяна — В. Кавалёў. Бард А. Атаманаў выканаў некалькі песень.

**Ірына КРЭНЬ.**
**Фота Уладзіміра КАРМІЛКІНА.**

*Беларускае замежжа*

## «Голас часу»: сакавік — красавік-93

Гэты нумар пачынаецца віншаваннем рэдакцыі ўсіх беларусаў на Бацькаўшчыне і за яе межамі з днём абвяшчэння БНР — 25 Сакавіка, а таксама з вялікім хрысціянскім святам — Вялікаднем.

Значнае месца займае публікацыя матэрыялаў Першага сходу беларусаў бліжкага замежжа, што адбыўся 19—20 снежня 1992 г. у Менску. Тут надрукаваны Заява ўдзельнікаў сходу, Зварот да парламентаў і ўрадаў дзяржаў, якія ўваходзілі раней у склад СССР, да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, да народа Беларусі і да беларусаў свету.

Безумоўна, пэўную цікавасць для чытачоў уяўляе публікацыя Аляксандра Баханчыка «Як улады суверэннай Беларусі адзначылі гадавіны двух гістарычных падзей». Ён з абурэннем распавядае, як мясцовыя ўлады па-рознаму паставіліся да святкавання гадавіны Слуцкага паўстання 1920 г. і ўгодкаў разгрому арміі Напалеона пад Барысавам пры пераходзе цераз рэчку Бярэзіну 180 гадоў таму.

У нумары друкуецца працяг нататак Наталлі Сцяжко пра вясковы літаратурна-краязнаўчы музей Алеся Белакоза ў вёсцы Гудзевічы, пачатак якіх у папярэдніх нумарах часопіса (№№ 20—22). На гэты раз чытачы даведаюцца пра рэдкія экспанаты музея.

«За плотам Катыньскага лесу» — заканчэнне публікацыі Юрыя Весялкоўскага пра трагічную гісторыю польскіх афіцэраў, што загінулі ад рук савецкіх катаў у 1940 годзе ля вёскі Катынь. Аўтар звяртае асаблівую ўвагу і на тое, што справа Катыні не з'яўляецца выключнай справай замардаваных палякаў. Нямала там спачывае і беларусаў, паколькі ў турмах заходніх раёнаў Украіны і Беларусі (згодна з дакументам, перададзеным прэзідэнту Польшчы) знаходзілася 18632 арыштаваныя (10685 з іх былі палякі, астатнія 8 тыс. — беларусы, украінцы і яўрэі, лёс якіх таксама невядомы).

Часопіс змяшчае на сваіх старонках артыкулы Ю. Свяржынскага «Язафат Кунцэвіч і яго памагатыя», Юрыя Весялкоўскага «Смерць Канстанціна Вялікага», Аляксандра Асіповіча «Пазнаць Бога праз любоў» (былі дасланы аўтарам яшчэ на пачатку 1975 года ў рэдакцыю часопіса «Званіца», але па пэўных прычынах не мог быць надрукаваны раней), працяг публікацыі Ул. Паддубнага «Там, дзе хадзіла смерць...».

Напрыканцы друкуюцца невялічкія нататкі пра грамадска-культурнае жыццё эміграцыі, а таксама выпісы з беларускага перыядычнага друку.

**Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.**

# А як па-англійску?

У англамоўным друку можна ўбачыць некалькі варыянтаў назову нашай рэспублікі: **Belarus** і **Bielarus** ды **Byelorussian**, **Belarussian**, **Belarusian**, **Bielarusian**, **Belarusan** у сэнсе беларус, беларускі. Калі б наш алфавіт быў лацінізаваны, дык заходнія краіны пераймалі б нашыя назовы лягчэй, чым напісанне харвацкіх, чэшскіх ці літоўскіх слоў. Справа ў тым, што Library of Congress у Амерыцы, установа якая вызначае нормы транслітарацыі, перадае кірылічнае **е** лацінскім **е**, і таму выходзіць **Belarus**, а не **Bielarus**. Акрамя гэтага, у нас мяккае с на канцы назову, чаго няма ў заходніх мовах.

Пытанне: Як найлепей перадаць вымаўленне Беларусь-эн па-англійску? Трэба памятаць, што **belarusian** напрашваецца выгаворваць як **бэларужэн**, падобна да **Elbrus**, **Elbrusian** — элбружэн, **Caucasus**, **Caucasian** — кокожэн. А **belarusan** — **бэларусэн** гучыць цвердавата, што не характэрна для нашай мовы, але можа гэта найлепшы выхад, каб адарвацца ад **Russian** — **рашэн**, або ўжываць **Belarusish** у прыметнікавай форме. Інакш трэба шукаць назоў, што не мае ў сабе **рус**, як, прыкладам, Украіна замест Маларосіі.

Я ўважаю, што Беларуская Акадэмія Навук разам з урадам павінна афіцыйна ўстанавіць транслітарацыю назову **Беларусь**, **беларускі** ў чужых мовах і прапагандаваць яго ўжыванне ў першую чаргу ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, у беларускіх консульствах і пасольствах. Разнастайнае напісанне не дадае павагі нашай краіне. Будучыня Беларусі можа залежыць таксама і ад таго, як мы сябе падаем свету.

Мае прапановы:

| Назоў | як вымаўляецца | заўвагі |
|---|---|---|
| **Назоў краіны** | | |
| **Bielarus** або **Belarus** | **Бійлэрус або -рас** **Бэларус або -рас** | блізка да арыгіналу |
| **Асоба або прыметнік** | | |
| **Bielarusan** або **Belarusan** | **бійлэрусэн або -расэн** **бэларусэн або -расэн** | **беларус або беларускі** |
| **Bielarus, -es** або **Belarus, -es** | **бійлэрас, -эс** **бэларас, -эс** (як walrus, -es) | **беларус, беларусы** |
| **Bielarusish** або **Belarusbsh** | **бійлэрусыш** (як Irish) **бэларусыш** | **беларускі** |

P.S. Розныя краіны маюць свой уласны падыход. Цяпер часопісы і газэты найчасьцей ужываюць **Belarus** як назоў краіны і **Belarussian** як назоў асобы, або ў прыметнікавай форме. Таксама ў прыметнікавай форме можна было б ужываць **Belarus** (ці **Bielarus**).

Язэп Арцюх, ЗША

# *Цікавая знаходка*

**У** мінулым годзе праф. Славянскага семінара Гамбургскага універсітэта, вядомаму даследчыку беларускай мовы ў Германіі Карлу Гутшміту ўдалося адшукаць даволі рэдкае і надзвычай цікавае рукапіснае выданне адной з першых беларускіх граматык. Яно захоўваецца зараз у бібліятэцы Славянскага семінара Гамбургскага універсітэта, дзе ўпершыню было зарэгістравана пад нумарам 34 у 1923 годзе. Выданне гэтае падрыхтавана выдатным беларускім навукоўцам, грамадскім і палітычным дзеячам Антонам Луцкевічам у выглядзе лекцый, чытаных ім на Беларускіх настаўніцкіх курсах у Вільні ў 1915—1916 гадах. Ніжэй падаецца яго поўная назва ў арыгінале:

Anton Luckiewič
Biełaruskaja hramatyka
Pawodłuh lekcij,
čytanuch na Biełaruskich
Wučycielskich kursach
u Wilni ŭ 1915—1916 hh.
Časć I. Fanetyka
i etymalogija.
Wilnia, 1916 hod.

Гэта невялікі па аб'ёму ў 70 старонак рукапіс, які пазней быў размножаны ці то непасрэдна з запісаў самога аўтара, ці, хутчэй за ўсё, са спецыяльна падрыхтаванага тэксту. Напісаны ён чарнілам чорнага колеру, вельмі выразным каліграфічным почыркам на чыстых лістах паперы памерам 21 на 35 сантыметраў. Аднак ад таго, што рукапіс працяглы час захоўваўся ў бібліятэцы, чарніла ў некаторых месцах выцвіла так, што пабляклыя літары хутчэй угадваюцца, чым чытаюцца, а таму і гаворкі пра тое, каб рукапіс узнавіць ксеракапічным спосабам, быць не можа.

Беларуская граматыка А. Луцкевіча, на погляд праф. Гутшміта,— адна з першых спробаў асэнсавання граматычных структураў беларускай гутарковай і пісьмовай мовы, спроба стварэння лінгвістычнай тэрміналогіі і надання беларускай мове нарматыўнага характару. У той жа час яна з'яўляецца яскравым дакументам эпохі, характэрнай часткай працэсу, па якім ішло далучэнне беларускай мовы да рэгламентаваных нормаў, да паднарадкавання яе пэўным граматычным правілам і законам.

У хуткім часе з'явяцца новыя спробы кадыфікацыі беларускай літаратурнай мовы. Так, у 1918 годзе праф. Рудольф Абіхт разам з Янкам Станкевічам выпусціць з друку ў Брэславе невялікі лемантар

„pròsty spòsab stàcca ŭ karòtkim čase hràmatnym".

У той жа час выдаецца падрыхтаваная для настаўніцкіх курсаў граматыка Баляслава Пачобкі, а неўзабаве ўбачыць свет і першы падручнік беларускай мовы — «Беларуская граматыка для школ» Браніслава Тарашкевіча. Менавіта ў ёй падсумаваны і абагульнены той вопыт, што быў назапашаны беларускімі навукоўцамі ў галіне нарматыўнай граматыкі. Ды ўсё яшчэ недасягальнай для навукоўцаў Беларусі з'яўляецца даволі аб'ёмная (як сведчыць перапіска Р. Абіхта з А. Луцкевічам) рукапісная «Граматыка беларускай мовы», напісаная праф. Абіхтам, якую ён планаваў выдаць на пачатку 20-ых гадоў. Смерць аднак перашкодзіла ажыццяўленню гэтай яго значнай задумы, і яна разам з «Гісторыяй беларускай літаратуры» і да сёння ляжыць у архівах ведамага беларусазнаўца, чакаючы сваіх даследчыкаў.

Мы ўстрымаемся ад больш шырокага і дэталёвага апісання гэтага выдання, ад раскрыцця яго структуры і аналізу зместу, што ў бліжэйшы час зробіць сам вучоны, спецыяліст у гэтай галіне. Акрамя таго, К. Гутшміт мае намер даць не толькі кваліфікаваную ацэнку гэтаму выданню, але і поўнасцю ўзнавіць яго тэкст, далучыўшы да яго разгорнуты каментарый, і такім чынам вярнуць рукапіс у навуковы зварот і зрабіць яго набыткам для нашчадкаў. Ужо маецца дамоўленасць аб такім выданні з вядучым нямецкім славістам праф. Бонскага універсітэта Хансам Ротэ, які апошнім часам шмат увагі аддае беларусістыцы.

На наш погляд, пажадана было б захаваць і аўтэнтычнасць гэтага ўнікальнага выдання. Будзем спадзявацца, што першыя публікацыі пра беларускую граматыку А. Луцкевіча абудзяць зацікаўленасць да яе і з боку беларускіх лінгвістаў, што, безумоўна, зможа паслужыць спрыяльнай перадумовай для яе факсімільнага выдання.

**У. САКАЛОЎСКІ.**

*Беларускае замежжа*

# «ЗГАДКА ЗГАДКУ ЧУЕ»

***Так назвалі аўтары тэлевізійны фільм, прысвечаны Багдановічу і зняты рэжысёрам Беларускага тэлебачання Генадзем Нікалаевым па сцэнарыю Галіны Таўлай. Здымкі рабіліся як у Менску, так і ў Санкт-Пецярбургу.***

***Апошняе выклікана тым, што кампазітар Ігар Мацыеўскі, які працуе загадчыкам сектара інструментазнаўства Усерасійскага інстытута мастацтвазнаўства (Санкт-Пецярбург, Ісакіеўская плошча, 5), напісаў нізку песень, рамансаў і хароў на словы Максіма Багдановіча. Апроч таго, ім напісана музыка да гэтага фільма, вельмі цікавая сама па сабе. Яе можна разглядаць як самастойны твор, дарэчы вельмі сучасны па тэхніцы выканання (так званы бясклавішны спосаб ігры на фартэпіяна). І гэта не даніна модзе, а творчая патрэба. Як вынік — музыка ўздзейнічае на слухача незвычайна: ніхто не застаецца абыякавым і знаходзіць для сябе нешта блізкае. Мы спыталіся ў спадара Мацыеўскага:***

**А. К.** — Ігар Уладзіміравіч, Вы — не беларус па паходжанні, нарадзіліся і жылі на Украіне, цяпер вось тут, у Санкт-Пецярбургу. Дзе і як адбылося Ваша першае знаёмства з Багдановічам?

**І. М.** — У Менску. Ля опернага тэатра. Шпацыруючы там, я пацікавіўся чалавек мо ў пяцёх, каму тут пастаўлены помнік. Адказы былі прыкладна такімі: «Не ведаю...», «А хто ягэ знае...», «Можа рэвалюцыянеру якому...» І толькі Галіна Валянцінаўна Таўлай, супрацоўнік АН Беларусі і, дарэчы, мая добрая знаёмая і калега, адкрыла мне таямніцу, якую так старанна «утойвалі» ад мяне мінчане, і нават зрабіла большае — падаравала факсімільнае выданне «Вянка». Я быў ад кнігі ў такім захапленні, што назаўтра скупіў у кнігарні ўсе экземпляры «Вянка», якія там меліся, і ў сваю чаргу дарыў сваім сябрам і знаёмым.

**А. К.** — Чым жа ён Вас так прывабіў?

**І. М.** — Ведаеце, гэта — элітарны паэт. Не ў тым сэнсе, што ён толькі для эліты. Між іншым, хоць гэта і не да тэмы, дзе вы яе знойдзеце ў цяперашні час?! Мне здаецца, што дарэмна спрабуюць адшукаць у Багдановіча адну толькі фалькорнасць. Тое, што ён скарыстоўваў фальклорныя матывы, сведчыць перш за ўсё пра вельмі тонкі мастацкі густ і глыбокую творчую інтуіцыю паэта. А што датычыць беларускага фальклору, то ён вылучаецца ў першую чаргу сваёй элітарнасцю, ці, хутчэй, камернасцю, якую я разумею так, што гэтакі фальклор — не для плошчы. Ён вельмі інтымны, пэўна, для аднаго ці двух чалавек, чымся для нейкага гуртка, хай і не надта вялікага. Во гэтак і Багдановіч. Ён — для чытання на той час, калі хочацца пабыць аднаму.

**А. К.** — А што Вас падштурхнула да напісання песень?

**І. М.** — Як заўсёды — выпадак. Ды мо якраз тое непазбежнае для чалавека жаданне засяродзіцца, пабыць у адзіноце, калі яму цяжка. Неяк пасля тлумнага дня ў выканкаме Ленсавета — а я працаваў тады намеснікам старшыні — прыйшоў дахаты ледзь не апоўначы, і настрой быў — горш не прыдумаеш: не хацелася нікога бачыць, нічога не хацелася рабіць. І вось тут, сам не ведаючы чаму, падышоў да кніжнай паліцы, узяў нейкі томік... Якім было здзіўленне, калі я ўбачыў, што гэта — Багдановіч! То, мусіць, падсвядома якраз яго і шукаў... Разгарнуў — і зноў не паверыў вачам: кніга раскрылася на «Пентаметрах», так добра вядомых мне. Але ў той вечар я глядзеў на ўсё другімі вачыма. Нібыта ў сне ці якім зрушэнні сеў да раяля, крануў клавішы, і раптам — як у завіруху — наляцела нешта, скамечыла мае ранейшыя думкі, загучалі нячутыя дагэтуль акорды... І ледзь паспяваў запісваць ноты.

**А. К.** — І колькі твораў Багдановіча Вы паклалі на музыку?

**І. М.** — Пэўна, больш дзесяці... Ці ж тут трэба лічыць?! Лепш сказаць пра тое, з якім уздымам і з якім дыяпазонам усё гэта рабілася: ёсць і песні («Не кувай ты, шэрая зязюля»), і рамансы, і хары («Завіруха», «Свяча бліскучая зіяе»). Я нават сам не чакаў, што ўсё так атрымаецца.

**А. К.** — А Вы ўжо чулі свае творы ў выкананні прафесійных майстроў?

**І. М.** — Безумоўна. Якраз калі рабілі фільм. Вакальны цыкл «Пентаметры» выконваў заслужаны артыст рэспублікі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі і ўвогуле вельмі таленавіты спявак з высокай музычнай эрудыцыяй Віктар Скарабагатаў. А раманс «Роздум», напрыклад, выконваўся ім разам з другім выдатным майстрам — на дудцы граў Уладзімір Пузыня, прадстаўляць якога беларусам, спадзяюся, не трэба. І гэта было сапраўднае свята. Не толькі для мяне. Увогуле, імпульс ад твораў Багдановіча быў такі вялікі, што ўслед за песнямі і рамансамі нарадзіўся «Спеў» — музыка для скрыпкі, кларнета і фартэпіяна (без удзелу клавішаў), якую потым мы скарысталі ў фільме «Згадка згадку чуе».

**А. К.** — Прабачце, а як «разгадаць» такую назву?

**І. М.** — Гэта пытанне, хутчэй, да аўтараў фільма — сцэнарыста Г. Таўлай і рэжысёра Г. Нікалаева, але паколькі яны не прысутнічаюць пры размове, паспрабую раскрыць таямніцу і спадзяюся, што не пакрыўдзяцца на мяне: аўтарства ўсё роўна належыць ім. Багдановіч — сам згадка. А ў мастацтве часцей за ўсё так, што агонь, высечаны адным творцам, высякае ў душы другога новыя іскры. Так і атрымоўваецца, што адна згадка вядзе за сабой другую, трэцюю... Здзіўляцца тут не трэба: гэта ж класічны закон творчага абмену думкамі, пачуццямі, вобразамі... Мусіць, тое самае адбылося і са мной, калі загучала ў той памятны для мяне вечар першая нотачка з «Пентаметраў»...

**А. К.** — І не цяжка Вам было пераўвасабляцца? Пранікненне ў чужую мову і культуру — таксама пераўвасабленне.

**І. М.** — А чаму чужую? Калі мы жылі пад Кіевам, нашымі суседзямі былі беларусы, і я гадоў гэтак з трох чуў беларускую мову і нават размаўляў на ёй з аднагодкамі... А потым у музычнай школе, дзе маці выкладала сальфеджыо, мы спявалі на занятках беларускія песні. Гэта сувязь з беларусамі і іхняй культурай не парывалася і ў гады вучобы ў кансерваторыі. Ды і цяпер не парываецца: фальклорны матэрыял для доктарскай дысертацыі я збіраў на Палессі. А калі зірнуць шырэй альбо, лепш сказаць,— глыбей, то еднасць паміж нашымі народамі існуе даўно. Ці ж мы такія розныя?! Прыгадайце хаця б Лесю Украінку. У яе з Багдановічам столькі агульнага — і ўзровень творчасці, і нота высокага гарэння, і няпросты, скажам, трагічны жыццёвы лёс. І абое яны ў нейкім сэнсе выгнаннікі — жылі не там, куды мкнулася іх душа і цела. Скажыце, чым яны нас захапляюць? Перш за ўсё, чалавечнасцю. Мы адчуваем іхні боль, успрымаем яго як свой. Праз тое яны і блізкія нам, бо мы, многія з тых, хто жыве цяпер па-за межамі роднага краю,— а гэта датычыць як нас, украінцаў, так і вас, беларусаў,— таксама выгнаннікі, хаця па іншых прычынах і іншага характару. Але ці не праз гэту акалічнасць нам лягчэй адгукнуцца, лягчэй спасцігнуць тое, што не выказаць аніякім казённым словам ці акордам — спавітае горыччу і любоўю і незвычайнае па сіле пачуццё тугі па Радзіме, пачуццё, якое як танюткі, але вельмі чуйны нерв жыве як у творах Украінкі, так і ў творах Багдановіча? І ці не таму перакінуўся да нас без патуг і ўяўнай надуманасці — праз гэтулькі гадоў! — іхні чысты і нязгасны агонь, што хвалюючь нас амаль тыя самыя праблемы — як не страціць духоўнасць, як адрадзіцца, як, урэшце, узняцца над мітуснёй, калі многім хочацца проста выжыць?.. І галоўнае — як не зачарсцвець у сабе чалавека? І згадка Багдановіча — наша згадка, згадка нашай душы. А згадка сапраўды згадку чуе — хто асмеліцца адмаўляць гэта?!

**Са спадаром Мацыеўскім гутарыў**
**Анатоль КІРВЕЛЬ.**
г. Санкт-Пецярбург.




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Нікалаўс Ленаў (1802—1850) выхоўваўся пад непасрэдным уплывам нямецкай, венгерскай і заходнеславянскіх культур і стаў вялікім паэтам Аўстрыі...

*Нікалаўс ЛЕНАЎ*

## Тры цыганы

Ледзь паўзла карэта мая
Сумнай пясчанай раўнінай —
Трох цыганоў убачыў я
Пад прыдарожнай вярбінай.

Першы, тулячы скрыпку, граў
Звонкую песню імпэтна;
Вечаровы прамень асвятляў
Твар яго ледзь прыкметна.

Побач другі — люльку паліў,
Кольцы пускаў у неба,
Быццам лепшага на зямлі
Шчасця няма й не трэба.

Трэці, цымбалы адклаўшы ўбок,
Спаў, як дзіця малое.
Ветрык струны кранаў незнарок,
Поўнілі сэрца мрої...

Рознакалёрныя рызманы
Іх акрывалі целы —
Долі зямной, аднак, яны
Кідалі выклік смелы.

Тройчы тады я змог спазнаць,
Як — каб сябе не зняважыць —
Можна жыццё пракурыць, праспаць,
Тройчы пагардаю спляжыць.

Помню: дарогаю зноў і зноў
Толькі і мроіў тады я
Твары смуглявыя цыганоў,
Кудзеры іх смаляныя.

## Паўсюль паглядна...

Як вокам кінуць, нам паўсюль паглядна:
Жыццё ў аповядах — як вандраванне;
Сюды-туды мы гонімся бязладна
І сілы ўсе растрачваем дазвання.
Каб у юнацтве здолець нам застацца,
Спыніўшыся перад апошняй мэтай
Жыццёвай,— мы б маглі, напэўна, з гэтай
Гульні адкрыта й шчыра пасмяяцца.
Як конаўку падбітую, нясе
Нас сіла нейкая — няведама куды,
І кроплі выцякаюць пакрысе,
На сцежцы пакідаючы сляды.
Пустая конаўка — ёй немінуча
Ляжаць між іншых чарапкоў у кучы.

Пераклад з нямецкай
Лявона БАРШЧЭЎСКАГА.

*Чыталі?* *Чыталі?*

# ПРЫСВЕЧАНЫ ДЗЯРЖАЎНАМУ ГЕРБУ

Навука аб старажытных гербах — геральдыка — сёння на Беларусі з'яўляецца адзінай, бадай, галіной гістарычных даследаванняў, якая знаходзіцца амаль на еўрапейскім узроўні. На фоне гістарычнага бяспамяцтва беларусаў і глыбокага крызісу, з якога ніяк не здолее выбрацца ўся наша гістарычная навука (ці навука яна ўвогуле?), поспехі айчыннай геральдыкі проста ўражваюць. Справа нават не ў тым, што цяпер маюцца грунтоўныя манаграфічныя распрацоўкі праблем геральдыкі і сфрагістыкі (вывучае старадаўнія пячаткі — «сёстры» тагачасных гербаў), што ў энцыклапедыях, у розных іншых даведніках ёсць артыкулы, прысвечаныя старым беларускім пячаткам і гербам. Нельга не заўважыць, што здабыткі нашай геральдыкі ўсё больш уваходзяць у побыт. Так, мы цяпер карыстаемся паштовымі канвертамі, аздобленымі беларускімі геральдычнымі сюжэтамі. Выявы старажытных гербаў беларускіх гарадоў і мястэчак прыгажэюць на сувенірах, значках, на модных поліэтыленавых торбачках, гістарычная гарадская геральдыка шырока адлюстравана на старонках календароў. А з нядаўняга часу беларускі герб «Пагоня» заняў сваё пачэснае месца на шыльдах урадавых устаноў, на дзяржаўных пячатках, на бланках афіцыйных папер. Такім чынам, праз геральдыку і сфрагістыку са скарбамі роднай мінуўшчыны ці не ўпершыню знаёмяцца мільёны грамадзян рэспублікі, што, безумоўна, спрыяе росту іх нацыянальнай свядомасці, садзейнічае Адраджэнню наогул.

Праўда, мала хто ведае, што ўсе дасягненні сучаснай беларускай геральдыкі звязаны з імем Анатоля Цітова — старшага навуковага супрацоўніка Беларускага навукова-даследчага цэнтра дакументацыі і рэтраспектыўнай інфармацыі, чалавека апантанага і на дзіва сціплага. Ён роўна чвэрць стагоддзя вывучае ў архівах спадчыну, сівую даўніну. На жаль, можна на пальцах пералічыць беларускіх гісторыкаў, чые працы вокамгненна знікаюць у кнігарнях з паліц. Анатоль Цітоў трывала знаходзіцца сярод іх. Але апошняя, невялікая па аб'ёму, напісаная даходліва і цікава кніжка гэтага аўтара «Наш сімвал — Пагоня» займае асаблівае месца, бо яна цалкам прысвечана найгалоўнейшай нашай нацыянальнай святыні, спрадвечнаму беларускаму дзяржаўнаму гербу, які цяпер адрадзіўся, стаў сімвалам Рэспублікі Беларусь.

У кнізе ўдала і паслядоўна аднаўлена гісторыя гэтага герба ад самых вытокаў да дзён сённяшніх. Аўтар справядліва лічыць, што народы, якім чужыя, штучныя дзяржаўныя сімвалы былі прымусова навязаны (што мела месца і пры стварэнні БССР), «адмаўляюцца ад іх, вяртаючыся да чыстых, не забруджаных ідэалагічнымі догмамі крыніц сваёй уласнай Гісторыі. Тое ж робім і мы, беларусы».

А. Цітоў прыводзіць радкі са шматлікіх хронік і летапісаў, якія сведчаць, што ў дачыненні да нашай зямлі «рыцер збройны з мечамі на кані» ўпершыню фіксуецца дакументамі з канца XIII—пачатку XIV ст. Але чаму выява згаданага рыцара атрымала назву «Пагоня»? Адказваючы на гэта, аўтар цытуе фрагмент ліста вялікага князя Ягайлы ад 20 лютага 1387 года да абывацеля, дзе, у прыватнасці, гаворыцца, што праследаванне ворагаў, «непрыяцеляў нашых... па народнаму завецца пагонею». Іншы сімвал тады, відаць, проста не меў права стаць гербам нашай дзяржавы, бо менавіта ад абароны краіны ў той час найперш залежала існаванне народа. Мяркуйце самі. Паводле падлікаў вядомага гісторыка М. Ткачова, толькі з канца XIII ст. да Грунвальдскай бітвы 1410 г. крыжакі больш за 140 разоў нападалі на Вялікае княства Літоўскае. А з канца XIV ст. да Люблінскай уніі 1569 г. на княства зрабілі 75 разбуральных, крывавых нашэсцяў крымскія татары.

У кнізе неаднаразова падкрэслена, што Пагоня — не лакальны герб пэўных беларускіх зямель, ці княстваў, а сімвал дзяржаўнай самастойнасці ўсёй этнаграфічнай тэрыторыі, спрадвеку заселенай нашымі продкамі (з улікам Падляшша, Віленшчыны з Трокамі і тых абшараў, якія зараз ляжаць далёка за ўсходнімі межамі рэспублікі). З гісторыка-геральдычнай карты, распрацаванай аўтарам паводле дакументальных крыніц, вынікае, што ў сярэднявечны Пагоня была ўласціва ўсім беларускім ваяводствам Вялікага княства, а ўсе суседнія землі мелі зусім іншыя гербы. Чытач таксама даведаецца, што з падзеламі Рэчы Паспалітай і гвалтоўным далучэннем Беларусі да Расійскай імперыі гісторыя герба Пагоня не спынілася. Герб працягваў функцыянаваць і ў мінулым стагоддзі, знаходзячыся ў цяні двухгаловага расійскага арла (напрыклад, пад імператарскай каронай на гербах Віцебскай і Віленскай губерняў). Засталася Пагоня і на гербах некаторых беларускіх гарадоў, яна прысутнічала таксама на пячатках асобных мясцовых устаноў, на сцягах вайсковых часцей рускай арміі, якія мелі найменні ў гонар беларускіх гарадоў (напрыклад, лейб-гвардыі Гродзенскі губернскі полк).

У канцы кнігі А. Цітоў засяроджвае ўвагу на тым, што ва ўсе вызначальныя для долі Бацькаўшчыны часы Пагоня абавязкова і непазбежна зноў рабілася сімвалам барацьбы за нашу нацыянальна-дзяржаўную незалежнасць. Так, напрыклад, было ў перыяд паўстання 1863 года, калі спалучаная з Арлом Белым (герб Польшчы) Пагоня блішчэла на спражках паўстанцаў. Адраджэнне Пагоні назіралася і ў 1918 годзе, калі была абвешчана незалежнасць Беларускай Народнай Рэспублікі (выява Пагоні, у прыватнасці, знаходзілася на пячатках розных устаноў БНР). Гэты працэс атрымаў сваё натуральнае завяршэнне 19 верасня 1991 года, калі стаў відавочным крах таталітарнакамуністычнай імперыі і Вярхоўны Савет Беларусі вярнуў, урэшце, Пагоні яе колішні статус нашага спрадвечнага дзяржаўнага герба.

Адзначым, што кніжка цудоўна ілюстравана (мастак А. П. Бажэнаў). Выдавецтва «Полымя», якое выпусціла кніжку, можа па праву ганарыцца ёю. Вось толькі наклад — усяго 5800 паасобнікаў — адразу ператварыў выданне ў бібліяграфічную рэдкасць. А шкада, бо кніжка гэта належыць да ліку тых, з якіх штогод трэба было б у верасні пачынаць заняткі ў школах, у ідэале яна павінна мецца ў кожнай сям'і, у кожнай беларускай хаце.

Мар'ян ВІЖ.

# «А душа належыць Беларусі...»

**Апошнім часам у нашай краіне ўсё часцей у газетах і часопісах распавядаюць пра беларусаў, якія жывуць у блізкім і далёкім замежжы, у прыватнасці на Беласточчыне. І многія адкрываюць для сябе, што на тэрыторыі суседняй Польшчы, дзе жывуць беларусы, ёсць шмат людзей, якія не адцураліся беларускай мовы, і што там працуюць беларускія школы і ліцэі, выходзяць, нягледзячы на ўсялякія цяжкасці, беларускія газеты і часопісы, жывуць і плённа твораць беларускія пісьменнікі. Імёны некаторых добра вядомы нашаму чытачу: Сакрат Яновіч, Алесь Барскі, Надзея Артымовіч і іншыя.**

**Зусім нядаўна ў нас з'явілася магчымасць пазнаёміцца з творчасцю маладой пісьменніцы з Беластока Міраславы Лукшы, чыя празаічная кніга «Дзікі птах верабей» прадаецца ў Менску (шкада, што толькі ў адным горадзе). Калі гаварыць дакладна, імя Міраславы Лукшы нам ужо вядома па апавяданнях і вершах, якія друкаваліся ў нашых часопісах і газетах. А той, хто мае магчымасць чытаць беластоцкую газету «Ніва», безумоўна, знаёмы і з журналісцкай дзейнасцю пісьменніцы, якая належыць да той невялікай часткі беларусаў-альтруістаў, якія не даюць на Беласточчыне загінуць беларушчыне ва ўмовах адарванасці ад Беларусі.**

**Апавяданні Міраславы Лукшы стылёва адрозніваюцца ад тых твораў, да якіх прывык наш чытач. Яны лаканічныя і змястоўныя, што гаворыць пра майстэрства і талент. На першы погляд, проза М. Лукшы — гэта аўтэнтычны запіс аповядаў «простых» людзей пра сваё жыццё. Аўтарка пазбягае ацэнак учынкаў сваіх герояў, але самі па сабе апавяданні прымушаюць чытача задумацца: чаму людзі такія жорсткія ў дачыненні адзін да аднаго, чаму шкадуюць адзін аднаму шчасця?**

**Ёсць у кніжцы «Дзікі птах верабей» і творы, якія нагадваюць пра тое, што Міраслава Лукша паэтка. Сярод такіх твораў вылучаецца апавяданне «Ёсць час ліпаў і слёз», з якога хочацца прывесці невялічкую цытату для знаёмства: «А старая Ліпа ляжала. І сонца не было. Пахла сонцам, балела сонцам, і яго не было!.. Я глянула ўверх. На бясхмарным небе — вісела — вялікае, круглае, з ашалелым беражком навокал. Іншае, да болю чужое. А бабулька паклікала мяне есці. Я праглынула слязу. Я адчула, што палізала сонца — маё сонца было ўва мне! А ты сказаў: «Ужо пара, ужо час». Ты ўжо ведаеш, што гэта — час. У цябе ёсць ручны гадзіннік. З секунднікам. Цiхенька цікае. Дазваляе думаць, што ты яго, час, прыручыў».**

**Кнігу Міраславы Лукшы «Дзікі птах верабей» можна набыць у «Кнігарні пісьменніка» ў Менску.**

Л. Ш.

## Выставы



Выстава «Жыве Беларусь», прысвечаная 75-ым угодкам утварэння Беларускай Народнай Рэспублікі, працуе ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Тут шмат рэдкіх дакументаў, якія дазваляюць наведвальнікам пазнаёміцца са шляхам развіцця нашай радзімы ад часоў раздзелу Рэчы Паспалітай да нашых дзён.

НА ЗДЫМКУ: у адным з залаў выставы.

Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА. БЕЛІНФАРМ.




***Д. Джарвіс: Нацыянальныя асаблівасці людзей і народная медыцына***

*(Працяг. Пачатак у №№ 9—13).*

***ЧАЛАВЕК СТАНОЎЧАГА ТЫПУ,*** як правіла, здаровы і актыўны. Яго любімым заняткам можа стаць паляванне, рыбалоўства, спартыўная гульня (гольф, тэніс і інш.), пешая прагулка. Фізічная праца задавальняе ў большай ступені, чым разумовая. З узростам ён хварэе меней, калі працуе фізічна і на свежым паветры. Калі ж сфера яго дзейнасці — разумовая праца, то з цягам часу яна яму надакучвае. Нежаданне працаваць, выконваць свае службовыя абавязкі становіцца прычынай канфліктаў і дрэннага настрою ў паўсядзённым жыцці. Найбольш прадуктыўны час для разумовых заняткаў — з 6 да 10 гадзін раніцы. Санлівы стан прыпадае на сярэдзіну дня, бяссонніца — на пачатак ночы. Мае добры апетыт, любіць мяса і кандытарскія вырабы, не любіць гародніну і салаты. Людзям станоўчага тыпу часта рэкамендуецца такая ж ежа, што і людзям процілеглага тыпу. Паколькі для іх нервовай сістэмы характэрна неўраўнаважанасць і ўзбудлівасць, то ў якасці супакойлівага сродку рэкамендуецца есці мёд — 6 чайных лыжачак паміж снеданнем, абедам і вячэрай. Да 40 гадоў, паколькі чалавек знаходзіцца ў стане найбольшай фізічнай актыўнасці, можна ўжываць бялковую ежу без абмежавання (мяса, яйкі, бабовыя, арэхі, рыба, малако і інш.). З пераходам у пажылы ўзрост, калі фізічная актыўнасць паніжаецца, ужыванне бялкоў неабходна скараціць.

Хімічны састаў арганізма можна змяняць таксама, як і стан нервовай сістэмы, дзеля чаго, перш за ўсё, трэба навучыцца рэгуляваць кіслотныя і шчолачныя рэакцыі ў крыві. Натрый дазваляе падтрымліваць у крыві нармальную слабашчолачную рэакцыю, нейтралізуючы лішнюю кіслату, што паступае ў кроў у выніку жыццядзейнасці клетак цела пры выкананні чалавекам работы. У працэсе сваёй жыццядзейнасці клеткі выпрацоўваюць малочную, вугальную, серную і фосфарную кіслоты. Хімічны баланс паміж кіслатой і шчолаччу рэгулюецца крывёй, лёгкімі і ныркамі. Калі секрэцыя (утварэнне) кіслаты ў страўніку дасягае максімуму адразу пасля яды, кроў мае больш шчолачную рэакцыю. Ныркі выдаляюць прадукты абмену, што паступаюць з крывёй, і ў выніку праходжання праз іх натрыю рэакцыя мачы змяняецца ад нармальна кіслай да шчолачнай. Пазней ежа паступае са страўніка ў кішэчнік, і пажыўныя рэчывы ўсмоктваюцца ў кроў. Па меры паступлення ў кроў кіслаты ўзровень натрыю ў крыві паніжаецца. Цяпер кроў будзе вызваляцца ад кіслаты. Пры праходжанні апошняй праз ныркі рэакцыя мачы вяртаецца да нормы — да кіслай рэакцыі.

Выдаленне кіслаты з крыві можа адбывацца таксама праз лёгкія. Праходзячы праз лёгкія, кроў аддае вугальную кіслату, што садзейнічае падтрыманню ў ёй нармальнай слаба-шчолачнай рэакцыі.

# *Выдавецкая дзейнасць ТБМ*

## *(выйшлі ў 1990—1992 гг.)*

1. Слоўнік Ластоўскага (факсімільнае выданне).
2. Санько З. Х. Малы руска-беларускі слоўнік прыказак, прымавак і фразем.
3. Першы выпуск беларускай навуковай тэрміналогіі — Грыбы. Падрыхтаваны да выдання другі выпуск.
3. Ян Станкевіч. Маленькі маскоўска-беларускі (крывіцкі) слоўнічак (3-яе выданне). Укладальнік Зміцер Санько, пасляслоўе Вінцука Вячоркі.
5. В. Ластоўскі. Што трэба ведаць кожнаму беларусу.
6. Зборнік «Установчы з'езд ТБМ».
7. М. Савіцкі. Руска-беларуска-англійскі слоўнік па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы.

## *Выйдуць у 1993—1994 гг.*

1. М. Шчакаціхін. Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва.
2. Аркадзь Смоліч. Геаграфія Беларусі.
3. Аляксандр Цвікевіч. Заходні русізм.
4. Язэп Найдзюк. Беларусь учора, сёння.
5. В. Раманцэвіч. Пачатак роднай мовы. Дапаможнік для ўсіх.
6. Зборнік «Слова народа — слова божае» (лісты і тэлеграмы ў Вярхоўны Савет у абарону роднай мовы — частка друкавалася ў газеце «Наша Слова») пад рэдакцыяй Ніла Гілевіча.
7. «Каб не ўмёрлі». Зборнік публіцыстычных артыкулаў старшыні ТБМ Н. Гілевіча.
8. Леанід Лыч. Моўная рэформа 1993 г. — ідэалагічны аспект.
9. Тэрміналагічны слоўнік па вышэйшай матэматыцы (рыхтуе кал. аўтараў з Політэхнічнай акадэміі).
10. Слоўнік зоапаразіталагічных тэрмінаў (аўтары Ятусевіч, Капліч).

## *Калі за адраджэнне мовы, чытай, спадарства, «НАША СЛОВА»!*

*Пачалася падпіска на выданні на другую палавіну 1993 года, якая складаецца з кошту выдання і затрат на паштовыя паслугі.*

*Падпісная цана на 1 месяц — 18 рублёў*
*на 3 месяцы — 54 рублі*
*на 6 месяцаў — 108 рублёў.*
*Індэкс «НАШАГА СЛОВА» — 63 865.*

## ● НА ХВАЛЯХ БТ ●

**15 КРАСАВІКА**

**10.35. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**16.30. Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. VII клас. Ахова помнікаў культуры на Беларусі.**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**21.00. Панарама.**
**22.25. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**23.55. НІКа.**

**16 КРАСАВІКА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.00. Футбол. Чэмпіянат Беларусі. «Дынама» (Менск) — «Тарпеда» (Магілёў). 2 тайм.**
**20.25. Падзея ў Беластоку. Польска-беларускія таргі.**
**21.00. Панарама.**
**23.00. НІКа.**

**17 КРАСАВІКА**

**13.55. ТА «Рэха». Хто адкажа?**
**14.45. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**19.10. Няхай праменіцца свята ваша. Тэленарыс пра Жыровіцкую духоўную семінарыю.**
**21.00. Панарама.**
**23.55. НІКа.**

**18 КРАСАВІКА**

**13.20. Студыя «Тэлесябрына». Велікоднае віншаванне мітрапаліта Менскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Філарэта.**
**13.35. Ці жывём па-хрысціянску? Рэпартаж з плошчы Свабоды.**
**13.50. Вялікдзень у Брэсце.**
**14.30. Вялікдзень у Віцебску.**
**15.30. Вялікдзень у Гомелі.**
**15.40. «Талент». Музычныя віншаванні студыі «Бусlік» пад кіраўніцтвам З. Ятухова.**
**16.05. Вялікдзень у Гродне.**
**16.35. Вялікдзень у Магілёве.**
**16.50. Сустрэча з вучнямі гуманітарнага ліцэя.**
**17.00. Віншаванне беларусаў-віленчукоў.**

## *УВАГА!*

Выйшаў з друку «Расейска-беларускі хімічны слоўнік». Яго распрацавала Задзіночанне беларускіх студэнтаў, а ў выданні дапамаглі фірма «Дайнова» і Нацыянальная выдавецкая кампанія «Беларусь — тэхналогія».

Слоўнік змяшчае 2,5 тысячы тэрмінаў, спецыяльных выразаў і дапаможа выкладчыкам, навуковым супрацоўнікам і студэнтам авалодаць беларускай хімічнай лексікай.

Набыць слоўнік можна, звярнуўшыся пісьмова на адрас: 220052, Менск, вул. Някрасава, 35-1-68 альбо па тэл. 31-90-88, 62-93-75.

Тэрміналагічная камісія ТБМ паведамляе, што на базе хімічнага факультэта БДУ працягвае працаваць тэрміналагічны семінар па хіміі, і запрашае ахвотнікаў да ўдзелу ў яго працы. Кантактны тэлефон 31-90-88.

## *Беларускія патрыёты!*

**Беларуская Эвангельская Царква — гэта Ваша царква. Калі Вы за духоўнае Адраджэнне Беларусі, калі Вас непакоіць лёс роднай мовы, прыходзьце штоаўторак а 18.30: Менск, вул. Гікалы, 4. Абласная бібліятэка імя Пушкіна (за ЦУМам, дзе раней збіралася «Талака»), другі паверх, маладзёжная зала,— і Вы знойдзеце аднадумцаў.**

**Тэлефануйце: 70-89-87 (Эрнст Сабіла).**

**Пішыце: 220117, Менск, Любімава, д. 21, кв. 56.**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.



Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае. Наклад 8614 паасобнікаў.

Зак. 267.

Падпісана ў друк 13.04.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». 220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3.